Інфармацыя Аналітыка Публіцыстыка

№17 чэрвень 2012

# ПРЭЗУМПЦЫЯ

Гарадзенскі праваабарончы
інфармацыйна-аналітычны бюлетэнь

## Арыштаваны Андрэй Пачобут




***Супраць журналіста завялі крымінальную справу. Яго вінавацяць паводле артыкулу «паклёп на прэзыдэнта».***

***Падставамі для абвінавачваньня сталі артыкулы на сайтах «Хартыя 97» і «Беларускі партызан».***

***Андрэя Пачобута арыштавалі ў ягонай хаце ў Горадні вечарам 21 чэрвеня.***

***У хаце зрабіліператрус. Сканфіскавалі кампутары. Пачобута павезьлі на допыт. ¨н адмовіўся адказваць на пытаньні. Яго завезьлі ў гарадзенскую турму.***

***Пачобута вінавацяць паводле крымінальнага артыкулу 367, частка 2 — «паклёп у адносінах прэзыдэнта, што ўтрымліваецца ў публічным выступе, альбо ў друкаваным ці публічна дэманструемым творы, альбо ў СМІ, зьдзейснены асобай, што раней была асуджана за паклёп альбо зьнявагу».***

***Паводле Крымінальнага кодэксу, журналіста могуць пакараць абмежаваньнем волі на тэрмін да 5 гадоў альбо пазбаўленьне волі на такі ж тэрмін.***

# У Менску памёр праваабаронец Барыс Звозскаў



У Менску ў ноч з 16 на 17 чэрвеня памёр праваабаронец Барыс Звозскаў , беларускі грамадскі праваабаронца. Гэта быў чалавек рэдкай прынцыповасці, сумленнасці і сціпласці адначасна. ¨н дапамагаў мноству людзей, застаючыся пры тым малазаўважаным і па вялікім рахунку невядомым шырокаму колу грамадскасці. Барыс Звоскаў ня проста змагаўся за правы чалавека, ён заўсёды ўкараняў у гэтым змаганні паняткі маральных прынцыпаў, чалавечай прыстойнасці, юрыдычнай этыкі.

Барыс Звозскаў - адзін з заснавальнікаў аб'яднання "Прававая ініцыятыва", першы прэзідэнт Беларускага Дома правоў чалавека, "Праваабаронца года Беларусі-2008"

Вельмі шчыры і сумленны чалавек, Барыс Ігаравіч заслужыў сваёй прафесійнай і адданай працай вялікі аўтарытэт.

Барыс Звозскаў нарадзіўся ў 1949 годзе ў Белагорску (Расія), скончыў Ленінградскі электратэхнічны інстытут. Да 1987 года працаваў інжынерам электроннай тэхнікі ў арганізацыі "Каскад" Міністэрства сярэдняга машынабудавання СССР, затым - у канцэрне "Планар".

Вечная памяць...

# У Беларусі новы палітвязень – журналіст Андрэй Пачобут

## *Заява праваабарончага цэнтру "Вясна"*

У Беларусі новы палітвязень – журналіст Андрэй Пачобут. Заява праваабарончага цэнтру "Вясна".

Праваабарончы цэнтр “Вясна” рашуча асуджае арышт і абвінавачанне ў паклёпе на прэзідэнта журналіста Андрэя Пачобута, расцэньваючы гэта як палітычна-матываваны пераслед за прафесійную дзейнасць і выказванне меркавання. Мы лічым Андрэя Пачобута новым палітычным зняволеным і патрабуем ягонага неадкладнага і безумоўнага вызвалення.

21 чэрвеня 2012 г. у г. Гродна быў затрыманы і ўзяты пад варту журналіст Андрэй Пачобут. Падствай для арышту журналіста стала крымінальная справа па ч. 2 арт. 367 КК Рэспублікі Беларусь (плёп у дачыненні да прэзідэта Рэспблікі Беларусь), узбуджаная Следчым камітэтам па Гродненскай вобласці згодна з матэрыяламі праверкі, праведзенай абласным упраўленнем КДБ. Па выніках праверкі ўпраўленне КДБ зрабіла выснову, што ў шэрагу публікацый Андрэя Пачобута на некаторых інтэрнет-рэсурсах утрымліваюцца “паклёпніцкія выказванні адносна А. Лукашэнкі”.

У адпаведнасці з санкцыяй часткі 2 артыкула 367 КК, Андрэю Пачобуту пагражае да пяці гадоў пазбаўлення волі.

Андрэй Пачобут на дадзены момант адбывае пакаранне ў выглядзе 3 гадоў пазбаўлення волі з адтэрміноўкай выканання прысуду на 2 гады згодна з прысудам, вынесеным 5 ліпеня 2011 года судом Ленінскага раёна Гродна за паклёп у адносінах да прэзідэнта (частка 1 артыкула 367 Крымінальнага кодэкса).

Праваабарончы цэнтр “Вясна” расцэньвае пераслед Андрэя Пачобута як расправу над журналістам за ягоную прафесійную дзейнасць, а таксама дэманстратыўную пагрозу для ўсёй журналісцкай супольнасці напярэдадні правядзення парламенцкіх выбараў. Мы з трывогай адзначаем, што дадзены рэпрэсіўны крок успрымаецца як адназначны сігнал усім грамадска-палітычным суб’ектам, якія падчас выбарчай кампаніі могуць выступаць з крытыкай існуючай улады.

Праваабарончы цэнтр “Вясна” настойвае на адмене дыфамацыйных артыкулаў у Крымінальным кодэксе, якія прадугледжваюць крымінальную адказнасць за паклёп, абразу прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, іншых службовых асобаў, дыскрэдытацыю Рэспублікі Беларусь. Мы глыбока перакананыя, што дадзеныя артыкулы знішчаюць свабоду выказвання меркавання, гарантаваную Канстытуцыяй, а таксама выкарыстоўваюцца выключна для палітычна-матываванага пераследу іншадумцаў.

Правабарончы цэнтр “Вясна” патрабуе:

Спыніць крымінальны пераслед у дачыненні да Андрэя Пачобута і неадкладна вызваліць яго з-пад варты.

Неадкладна і безумоўна вызваліць усіх палітзняволеных, якія знаходзяцца пад вартай ці ў месцах пазбаўлння волі.

Прывесці заканадаўства Рэспублікі Беларусь у адпаведнасць з міжнароднымі стандартамі ў галіне свабоды выказвання меркавання.

# У Камітэце па правах чалавека ААН зарэгістраваная скарга, пададзеная ад імя Алеся Бяляцкага



З скаргай у Камітэт па правах чалавека ААН ад імя Алеся Бяляцкага, старшыні Праваабарончага цэнтра "Вясна" і Віцэ-Прэзідэнта Міжнароднай Федэрацыі за правы чалавека (FIDH), які адбывае зняволенне ў папраўчай калоніі г. Бабруйска, звярнуліся яго жонка Наталля Пінчук і Антуан Бернар, Генеральны дырэктар Міжнароднай Федэрацыі за правы чалавека (FIDH).

У звароце абскарджваюцца парушэнні Рэспублікай Беларусь правоў, гарантаваных міжнародным дагаворам, падпісаным і ратыфікаваным гэтай дзяржавай - Міжнародным пактам аб грамадзянскіх і палітычных правах.

Камітэт па правах чалавека, афіцыйна прыняўшы да разгляду скаргу ад імя Алеся Бяляцкага, 19 чэрвеня 2012 г. накіраваў яе дзяржаве, якае павінна падаць інфармацыю ці свае пярэчанні з нагоды названых у звароце фактаў на працягу шасці месяцаў, гэта значыць да канца бягучага года.

# Без самападману

***Чалавеку ўласціва самападманвацца. І выгоды нібыта ніякай ад гэтага няма, але як нам хочацца верыць у тое, што ёсць так, а не іначай, што будзе лепш, а не горш. Хочацца верыць, што дзяржава стане на шлях дэмакратызацыі, а тыя, ад каго залежыць лёс многіх людзей, выявяць міласэрнасць, схамянуцца, возьмуцца за розум, прыслухаюцца да іншых. Але так не бывае, спадарства! І мы добра ведаем гэта з нашай нядаўняй гісторыі, у якой усё паўтараецца. І не двойчы, як няўдала выславіўся нехта, а мноства разоў. І, на жаль, не ў выглядзе фарса (яшчэ адно глупства!), а зноў у выглядзе бяды і трагедыі.***

У Гародні чарговы раз арыштавалі публіцыста і грамадскага дзеяча Андрэя Пачобута. Прыблізна як у той навязлівай рэкламе. “А вы яшчэ нешта пішаце і друкуеце?! – Тады мы ідзем да вас!”. Прыходзяць, рыюцца ў вашых рэчах, забіраюць кампутары, арыштоўваюць. На кожнага іншадумца знойдзецца свой артыкул. Напісаў нешта крытычнае пра кіраўніка дзяржавы ды яшчэ з малой літары яго пасаду – вось вам і абраза прэзідэнта. Дапамагаў несправядліва пацярпелым кансультацыямі, прывёз грошы для іх з-за мяжы – гэта ўжо непапраўныя страты дзяржаве ў асабліва буйным памеры Ухіляешся ад прызыву ў войска – здрада радзіме. Вывесіў гістарычны і нацыянальны бел-чырвона-белы сцяг – асабліва злоснае хуліганства. Адмоўна выказаўся пра парадкі ў краіне – дыскрэдытацыя Рэспублікі Беларусь. Не хочаш праходзіць зневажальную дактыласкапію і здаваць адбіткі пальцаў – непадпарадкаванне супрацоўнікам міліцыі. Не данёс “органам” пра тое, што твой знаёмы нібыта майструе выбухоўку – расстрэл. Надумаўся правесці пікет – парушэнне грамадскага парадку. Назваў Суворава акупантам – распальванне міжнацыянальнай варожасці. Захацеў зрабіць фота ці відэарэпартаж – экстрэміст. З апошнім так: хто да нас з камерай прыйдзе – той у камеру і сядзе. Журналісты ў нас на асаблівым уліку, публіцысты – асабліва небяспечныя элементы.

А неўзабаве і новы закон пра “Камітэт дзяржаўнай бяспекі” увойдзе ў сілу. Паводле яго супрацоўнікі спецслужбаў могуць у кожную хвіліну выламаць дзверы ў вашу кватэру ці хату, збіваць вас, а то і страляць. Зразумела, што вылучна і толькі ў мэтах “грамадскай” і сваёй асабістай бяспекі – “в соответствии с законодательством”. Калі агрэсіўнай і рэпрэсіўнай сілы будзе бракаваць, можна крымінальнікаў з турмаў выпусціць – прыём не новы, а правераны. Успомнім з гісторыі хоць бы 1953-ы год. А тут якраз амністыя рыхтуецца. Можна не хваляваца – вязняў сумлення, асуджаных па палітычных справах яна не закране. У іх жа паводле бальшавіцкай ідэалогіі адзін крок наперад – два назад: аднаго выпусцілі – дваіх пасадзілі. Арыфметыка простая і нязменная.



Пасля паразы паўстанняў 1794 і 1863 году на зямлі Беларусі хлынула хваля каланіяльнай расійскай адміністрацыі, прыблізна тое ж паўтарылася і ў дваццатым стагоддзі. А зараз глянеш на спіс кіраўнікоў гарадскіх і раённых адміністрацый, суддзяў, кіраўніцтва міліцыі – спрэс нашы мясцовыя прозвішчы – беларускія, польскія, габрэйскія. Ні з Самары, ні з Волагды і ні з Масквы прысланыя легіёны чыноўнікаў, работнікаў наменклатуры і сілавых структур твораць зло, нішчаць зараз усё беларускае, па-добраму традыцыйнае. А робяць гэта выгадаваныя, ускормленыя, размножаныя на нашай, тутэйшай глебе “клоны”. І дзевяць мільёнаў згодных жыць з перакручанай свядомасцю, “работать” у гэтай суцэльнай хлусні, па-рабску выконваць ганебныя і злачынныя загады. А што ж рабіць з тым мільёнам нязгодных з такой палітыкай, няскораных, абураных беззаконнем і татальнай несправядлівасцю. Для іх ужо падрыхтаваныя новыя “катыньскія” і “курапацкія” спісы, не сумнявайцеся. Як бы нам не хацелася ў гэта верыць, але да савецкага сталінізму ці да хусэйнаўскага Іраку, да асадаўскай Сірыі, ці да паўночнакарэйскай дыктатуры мы сёння намнога бліжэй, чым да цывілізаваных краін Еўропы.

*Уладзімір Хільмановіч*

# Хроніка правапарушэнняў

***Гарадзеншчына, чэрвень***

**У Гародні 1 чэрвеня, у дзень адкрыцця фестывалю нацыянальных культур, міліцыя затрымала 21 чалавека – удзельнікаў пікету ў абарону польскамоўнага навучання ў сярэдняй школе №36. Пры разгоне акцыі і затрыманні міліцыянты паводзілі сябе досыць брутальна. На бальшыню затрыманых склалі пратаколы пра адміністрацыйныя правапарушэнні. Грамадскага актывіста Ігара Банцара адразу завезлі ў суд. Перад гэтым яму выклікалі хуткую дапамогу, па словах актывістаў Саюзу палякаў ён мае цялесныя пашкоджанні і ў дадатак у яго моцна ўзняўся ціск. Банцар быў засуджаны да 13 сутак адміністрацыйнага арышту.**



1 чэрвеня быў адзначаны ў Гародні сапраўдным "паляваннем" на журналістаў. Незалежны журналіст Андрэй Пачобут, затрыманы і завезены ў міліцэйскі пастарунак па вуліцы Курчатава. Іншы журналіст Ян Роман таксама быў затрыманы, яго завезлі ў Ленінскі РАУС горада. Міліцыянты – адзін у форме, іншы ў цывільным, хвілін дзесяць званілі ў дзверы да Алеся Дзянісава, у аналагічнай аблозе была кватэра Андрэя Фралова.

6 чэрвеня пачаліся суды над затрыманымі журналістамі і грамадскімі актывістамі непрызнанага ўладамі Саюзу палякаў. Першай была засуджана журналістка Гражына Шалкевіч – сумнавядомая суддзя Наталля Козел аштрафавала яе на 50 базавых велічынь (на сёння гэта 5 мільёнаў рублеў) за нібыта ўдзел у несанкцыянаванай акцыі. Рэнаце Дзямянчук, віцэ-старшыні не прызнаванага ўладамі Саюзу палякаў, ў Ленінскім судзе Гародні прысудзілі штраф у 5 мільёнаў рублёў за ўдзел у несанкцыянаванай акцыі супраць увядзеньня расейскамоўных клясаў у школе з польскай мовай навучаньня. Паводле Дзямянчук, суддзя Ксенія Стасюкевіч, калі выносіла прысуд, улічыла паказаньні толькі сьведак-міліцыянтаў, якія блытана сьцьвярджалі, што яна брала актыўны ўдзел у акцыі, крычала і махала рукамі. Яе паказаньні пад увагу не ўзялі.

7 чэрвеня, у Гародні працягнуліся суды над затрыманымі 1 чэрвеня грамадскімі актывістамі ў час пікету ў абарону польскамоўных класаў у СШ №36. Да штрафу быў засуджаны Эдвард Дмухоўскі. Суддзя Ленінскага раённага суду Наталля Козел не ўзяла пад увагу ні тлумачэнні Дмухоўскага, ні аргументы яго адваката, засудзіўшы актывіста да штрафу ў 45 базавых велічынь. Суддзямі Натальляй Козел і Ксеніяй Стасюкевіч было абвешчана некалькі карных прысудаў. Журналістку Юлію Каляду аштрафавалі на 25 базавых велічынь, пенсіянерку Генрыку Стрэмалкоўскую – на 17 велічынь, яшчэ адну пенсіянерку Станіславу Цівунчык – на 20, Ірэну Міклаш – на 15. Засудзілі да штрафу і выпадковага мінака Пятра Табалу (23 базавыя велічыні), які праходзячы міма, заступіўся за жанчыну ў час гвалтоўнага "хапуну".

12 чэрвеня ў Гародні пачаўся разгляд адміністрацыйнай справы праваслаўнага святара Мікалая Гайдука, якога вінавацяць нібыта ў непадпарадкаванні міліцыі і адмове прайсці дактыласкапію. Падтрымаць айца Мікалая прыйшлі святары розных гарадзенскіх храмаў, журналісты і грамадскія праваабаронцы, а таксама звычайныя прыхаджане – агулам ў будынку суда Ленінскага раёну сабралася каля 100 чалавек.

12 чэрвеня суддзя Слонімскага раённага суду Іван Ластоўскі разгледзеў справу актывісткі БХД Вольгі Пансевіч. Яна аштрафаваная па двух артыкулах Кодэксу аб адміністрацыйных правапарушэннях агулам на 25 базавых велічыняў. Вольгу Пансевіч затрымалі 21 красавіка ў Слоніме, схапілі, гвалтам запхнулі ў машыну, завезлі ў пастарунак, трое сутак пратрымалі ў камеры, збівалі, ставілі ў позу

# Хроніка правапарушэнняў

## *Гарадзеншчына, чэрвень*

«ластаўкі».

15 чэрвеня прадказальнай адмовай завяршыўся разгляд скаргі грамадзяніна Гародні Уладзіміра Фяненкі, якую ён падаў у абласны суд на прысуд Ленінскага раённага суда. Судовая калегія, якая разглядала касацыйную скаргу, не захацела заглыбляцца ў яе сутнасць і па-фармалісцку патраціла на зацвярджэнне “законнасці прысуду” хвілін дваццаць.

18 чэрвеня ў судзе Ленінскага раёну Гародні завяршыўся адміністрацыйны працэс па скарзе старшыні гарадской арганізацыі АГП Аляксандры Васілевіч на дзеянні мясцовага гарвыканкаму. Актывісты АГП планавалі правесці “чарнобыльскі” пікет 26 красавіка. Суддзя Людміла Жукоўская палічыла адмову мясцовых уладаў законнай і не задаволіла скаргу Васілевіч.

21 чэрвеня ў Гародні быў арыштаваны Андрэй Пачобут. Супраць журналіста завялі крымінальную справу. Яго вінавацяць паводле артыкулу «паклёп на прэзыдэнта». Падставамі для абвінавачваньня сталі артыкулы на сайтах «Хартыя 97» і «Беларускі партызан». Пачобута арыштавалі ў ягонай хаце вечарам. Прыходзіў той сама следчы Гарадзенскай пракуратуры Арсені Нікольскі, які раней вёў справу Пачобута і міліцыянты. У хаце яны нічога не шукалі, сказалі адразу, што прыйшлі па Андрэя Пачобута і кампутары.У хаце зрабіліператрус. Сканфіскавалі кампутары. Пачобута павезьлі на допыт, а пасля ў турму. Пачобута вінавацяць паводле крымінальнага артыкулу 367, частка 2 — «паклёп у адносінах прэзідэнта, што ўтрымліваецца ў публічным выступе, альбо ў друкаваным ці публічна дэманструемым творы, альбо ў СМІ, здзейснены асобай, што раней была асуджана за паклёп альбо знявагу». Паводле Крымінальнага кодэксу, журналіста могуць пакараць абмежаваннем волі на тэрмін да 5 гадоў альбо пазбаўленнем волі на такі ж тэрмін.



22 чэрвеня ў Гародні прадоўжыўся суд над святаром Мікалаем Гайдуком, якога вінавацяць у непадпарадкаванні супрацоўнікам міліцыі пры патрабаванні прайсці дактыласкапічную рэгістрацыю. Працэс пачаўся яшчэ 12-га чэрвеня, але быў перанесены. На гэты раз у суд Ленінскага раёну з’явіліся абодва сведкі з боку міліцыі. Урэшце суддзя Ксенія Стасюкевіч пастанавіла адправіць пратакол, які быў складзены завочна, на дапрацоўку.

27 чэрвеня ў Гародні цягам дня ў час двухператрусаў у памяшканнях, якія арэндуе непрызнаваны ўладамі Саюз палякаў на Беларусі, канфіскаваны 9 сістэмных блокаў для кампутараў і друкаваныя выданні – газеты “Glos znad Niemna” і часопісы “Magazyn Polski”. Санкцыю на вобшукі падпісаў пракурор Гродзенскай вобласці Віктар Марозаў.

30 чэрвеня статус Андрэя Пачобута з падазраванага змяніўся на абвінавачанага. Пракуратура абвінаваціла яго ў абразе Аляксандра Лукашэнкі за шэраг публікацый на інтэрнэт-старонках “Беларускі Партызан” і “Хартыя-97”. Андрэю Пачобуту пагражае да пяці гадоў зняволення. У гэты ж дзень Пачобут выйшаў з арышту пад падпіску пра нявыезд.

30 чэрвеня суд Ленінскага раёну Гародні разгледзеў скаргу Аляксандры Васілевіч, старшыні гарадзенскай гарадской арганізацыі партыі АГП. Скарга была пададзеная на прадмет адмовы гарвыканкамам у правядзенні пікету. Суд не захацеў прыняць да ўвагі аргументы Васілевіч і пацвердзіў правільнасць адмовы.

# Наш адказ Чэмберлену

***Для звычайнага беларускага тэлегледача так і засталося незразумелым, чаго Пуцін у Беларусь прылятаў. Чаму ён спазніўся, парушыўшы тым самым нейкія платаколы сустрэчы, людзі успрынялі з гумарам і аддалі належнае расійскаму кіраўніку. Не першы раз Уладзімір Уладзіміравіч спазняецца. Што ён гэтым хоча паказаць словамі вытлумачыць немажліва, але нейкім унутраным адчуваннем людзі разумеюць такія паводзіны. Пытанне ў іншым. Якую карысць з гэтага мае сам расійскі лідэр?***

Вось, да прыкладу, на саміт вялікай васьмёркі ён ўвогуле не патрапіў. Адправіў туды цяперашні прэзідэнт Расіі Уладзімір Пуцін былога прэзідэнта Расіі Дзмітрыя Мядзведзева. Ну дык тыя кіраўнікі сямі найбольш магутных дэмакратычных эканомік нават не пакрыўдзіліся. Ці зрабілі выгляд што не крыўдуюць. Прынялі Мядзведзева як роўню. Толькі пасля саміту кошты на нафту катастрафічна для Расіі папаўзлі ў ніз. А краіны вытворцы нафты, нібыта згаварыўшыся, пачалі рэзка павялічваць аб'ёмы здабычы. Усе, акрамя Расіі. Таму што нафтавыя шалёныя грошы, што Расія зарабляла за апошнія гады, ішлі не на мадэфікацыю расійскіх нафтавых і іншых тэхналогій, а на мадэрнізацыю войска і на ўтрыманне аўтарытарных рэжымаў па ўсім свеце. Зараз, каб спыніць гэты працэс падзення коштаў на нафту, расійскаму начальніку прыйдзецца па асобку дамаўляцца з тымі з саміту. Вось і лічыце, наколькі часу спазніўся туды Пуцін і што ён ад гэтага выйграў.

Але вернемся да візіту ў Беларусь. Як і спазненне, так і далейшыя дзеянні расійскага кіраўніка ні здзівілі беларускую грамадзкасць, і нават не рассмяшылі. Былы прэм'ер-міністр ажно цэлай Расіі пахваліў беларускую эканоміку. Сказаў, што яна на правільным шляху і нават агучыў нейкія лічбы, якія рэзка выраслі ў параўнанні з ранейшым. Ну і паабяцаў для гэтай бліскучай эканомікі фінансавую падтрымку з антыкрызіснага фонду ЕурАЗЭС, каб такая ўдалая эканамічная мадэль якая існуе ў Беларусі не ляснулася канчаткова. Па праўдзе кажучы, гэта ўжо нават не смешна.



Вельмі шмат было нададзена ўвагі і самым Пуціным, і прымаючым беларускім бокам, і беларускімі тэлевядучымі таму факту, што расійскі прэзідэнт першую замежную паездку робіць менавіта ў Беларусь. Падавалася гэта як такая ласка, што невядома было як сябе паводзіць. Ці ў ногі пакланіцца расійскаму начальніку за такое нечаканае шчасце, ці ў руку яму пацалаваць. Прама праз шкло блакітнага экрана тэлевізара "Гарызонт", які выпрабляецца ў Беларусі а назву мае рускую.

Асаблівая ўвага надавалася узаемаадносінам паміж нашымі краінамі. Кіраўнікі гэтых краін паставілі самі сабе вышэйшыя балы за ўжо зробленую працу ў гэтым кірунку, і вырашылі не спыняцца на дасягнутым, а крочыць далей з стабільным паскарэннем. Зрэшты, да інтэграцыйных працэсаў запрасілі далучацца і іншых сяброў па былым савецкім мінулым. Як найбольш чаканыя называліся Казахстан ды Ўкраіна. Дзверы, маўляў, ні для каго не зачыненыя. Увайсці можа кожны. Як у пастку на мядзведзя. Выйсці, праўда, адтуль ужо цяжкавата. Але пытанні выхаду не абмяркоўваліся. Маўляў, якому ж дурню захочацца выходзіць з такога зямнога раю.

Не пакінулі без увагі, як гэта ахрысцілі вострыя языкі, і "наш адказ Чэмберлену". Беларусь цяпер з Расіяй разам будзе адстойваць свае правы на міжнароднай арэне. Асабліва ў эканоміцы. І вялікая Расія не пацерпіць аніякіх санкцый, якія накладваюцца дэмакратычным светам на суб'екты адзінай мытнай прасторы. Цікава, як на гэта адрэагуюць найбольш моцныя дэмакратычныя эканомікі свету?

А напрыканцы было аб'яўлена пра поўнае ўзаемапаразуменне расійскага і беларускага бакоў. Зрэшты, нічога новага. А калі гэта было па-іншаму? Заўсёды гэтым "поўным узаемапаразуменнем" заканчваліся усе сустрэчы. Таму, ніякай інтрыгі, акрамя як які адказ дасць Пуціну "Чэмберлен", і не адбылося. Усё як і было, так і засталося. І чаго прылятаў сюды расійскі начальнік засталося незразумелым. Няўжо выключна для таго, каб даць сумесны "наш адказ Чэмберлену".

***Віктар Сазонаў***

# Каляндар памятных і круглых датаў Гарадзеншчыны на ліпень 2012 году

**1 ліпеня**

200 гадоў таму (1812) – Напалеон абвесьціў узнаўленьне Вялікага Княства Літоўскага і стварыў часовы ўрад ВКЛ.

110 гадоў таму (1902) – У Адэсе нарадзіўся Антон Карніцкі, беларускі мастак. Жыў і працаваў у Слоніме.

**7 ліпеня**

440 гадоў таму (1572) – Памёр Жыгімонт II Аўгуст, вялікі князь ВКЛ і кароль польскі ў 1548-72 гг, фармальна з 1529. Скончылася дынастыя Ягайлавічаў, якая кіравала ў ВКЛ і Польшчы 186 гадоў.




**9 ліпеня**

10 гадоў таму (2002) – У Міры генеральны дырэктар ЮНЕСКА Каіціра Мацуура ўрачыста адкрыў памную дошку на Мірскім замку, якая сведчыць пра тое, што замак улучаны ў спіс сусветнай культурнай спадчыны.

**13 ліпеня**

420 гадоў таму (1592) - Памёр Альбрыхт Радзівіл, дзяржаўны дзеяч ВКЛ. Валодаў маёнткамі Лаздуны, Геранёны (Івейскі р-н).

**14 ліпеня**

20 гадоў таму (1992) – У Гародні памёр Аляксей Карпюк, беларускі пісьменьнік, грамадзкі дзеяч. Пахаваны на могілках па праспекце Касманаўтаў.

**19 ліпеня**

100 гадоў таму (1912) – У в. Мондзіна (Наваградзкі р-н) нарадзіўся Аляксей Анішчык, беларускі краязнавец, педагог, пісьменьнік.

85 гадоў (1927) – У в. Загора (Карэліцкі р-н) нарадзіўся Міхась Саўка, беларуска-бельгійскі мастак-рэстаўратар, мастацтвазнавец, археолаг.

**25 ліпеня**

15 гадоў таму (1997) – У ЗША памерла Натальля Арсеньнева, беларуская паэтка, дзяячка беларускай эміграцыі (ЗША). У 1922-24 жыла ў Слоніме.

**26 ліпеня**

420 гадоў таму (1592) – Памёр Ян Кішка (нар. каля 1540), дзяржаўны дзеяч ВКЛ, заснаваньнік Івейскай арыянскай школы.

220 гадоў таму (1792) – Мястэчка Астрына (Шчучынскі р-н) атрымала герб.

**28 ліпеня**

200 гадоў таму (1812) – У Варшаве нарадзіўся Юзаф Ігнацы Крашэўскі, пісьменьнік, гісторык, грамадзкі дзеяч. Вучыўся ў Сьвіслачы.

**30 ліпеня**

95 гадоў таму (1917) – Памёр Ян Курчэўскі (нар. у 1854 у мяст. Данюшава, Смургонскі р-н), беларускі каталіцкі духоўнік, гісторык, педагог.

**31 ліпеня**

210 гадоў таму (1802) – У маёнтку Мядзьведка (Карэліцкі р-н) нарадзіўся Ігнат Дамэйка, удзельнік нацыянальна-вызвольнага руху, філямат, геоляг, мінэроляг, нацыянальны герой Чылі. З 1884 па 1888 жыў у маёнтку Жыбартоўшчына (Дзятлаўскі р-н).

70 гадоў таму (1942) – Каля Наваградку гітлераўцы расстралялі 60 мірных жыхароў і двух каталіцкіх сьвятароў – Міхала Далецкага (з 1924 служыў пробашчам у Уселюбе, Наваградзкі р-н, з 1933 быў дэканам і пробашчам у Наваградку) і Юзафа Кучынскага.

***Кожны аўторак у эфіры незалежнай радыёстанцыі “Радыё Рацыя” - праграма “Людзьмі звацца!”, якая асвятляе падзеі, датычныя правоў чалавека на Беларусі. Час выхаду ў эфір – 15-05 (паўтор - серада 0:05-1:00 і субота 7:05-8:05). Таксама ў гэты час яе можна слухаць праз інтэрнэт на сайце***

**www.racyja.com**

***Больш падрабязную праваабарончую інфармацыю па ўсёй Беларусі вы можаце атрымаць на сайце***

**www. spring96.org**




***На сайце***

**www.palitviazni.info**

***вы таксама можаце атрымаць інфармацыю пра палітычных зняволеных у Беларусі***

***Больш падрабязную праваабарончую інфармацыю па Гарадзеншчыне вы можаце атрымаць на сайце***

**www.harodniaspring.org**



***Праваабарончая інфармацыя з іншых рэгіёнаў Беларусі:***

**Берасце - www.brestspring.org**
**Віцебск - www.vitebskspring.org**
**Гомель - www.gomelspring.org**
**Магілёў - www.mahilyowspring.org**

Гарадзенскі праваабарончы інфармацыйна-аналітычны бюлетэнь «Прэзумпцыя»
выходзіць 1 раз у месяц
наклад 299 асобнікаў
для нутранога карыстаньня

падрыхтаваны да друку: чэрвень 2012
e-mail:prezumpcyja@gmail.com
распаўсюджваецца задарма
пры перадруку спасылка абавязковая

